# ПРАЦАЎНІК АСЬВЕТЫ

Дадатак да газэты „САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ“

№ 6 | 8 ліпеня 1928 г. | № 6

ЗЬМЕСТ



# Пытаньні культурнай рэвалюцыі.

## Кадры культурнай рэвалюцыі.

Мы шчыльна падыходзім да пытаньня аб кадрах культурнай рэвалюцыі. Ужо ў першыя гады рэвалюцыі Ленін зьвяртаў нашу ўвагу на ўсю бязглуздасьць тых прапаноў, што трэба выкінуць усіх старых настаўнікаў з нашых школ і замяніць іх „чырвоным“ настаўнікам. Пралетарская рэвалюцыя сваім прыходам у сьвет зусім слушна не магла прывесьці з сабой гатовых, новых савецкіх культурных кадраў. Становішча было такое, што мы ў першыя гады рэвалюцыі ня мелі магчымасьці нават заняцца падрыхтоўкай новых кадраў. Такім чынам, гэтае пытаньне яшчэ больш абвастрылася ў зьвязку з сабатажам старой інтэлігенцыі, якая ўсё яшчэ разважала на тэму «прыняць» ці «ня прыняць» савецкую ўладу. Гэты пэрыяд закончыўся «пераходам» пераважнай большасьці настаўніцтва на бок пралетарскай дыктатуры.

Ленін пісаў, што **настаўнік пры савецкай уладзе павінен займаць гэткае пачэснае месца, пра якое ён ніколі нават ня мог марыць пры капіталізьме.** Пасьля, на адным з настаўніцкіх зьездаў, тав. Бухарын характарызаваў нашага настаўніка, як агітпропа камуністычнай партыі на вёсцы. Ясна, што настаўнік, які звычайна працуе пры адсутнасьці членаў партыі і камсамольцаў у яго мясцовасьці, зьяўляецца адзінай аўтарытэтнай асобай, да якой зьвяртаецца ўсё сялянства за тлумачэньнем дырэктыў партыі і ўлады. Такім чынам настаўнік мае вельмі шмат абавязкаў, што адначасова дае яму таксама пэўныя правы.

Ці выкарыстоўвае настаўнік свае правы, або ці выконвае ўлада ды наогул тыя асобы і ўстановы, ад якіх гэта залежыць, свае абавязкі да настаўніцтва?

Штодзень у нашым друку прыводзіцца дзесяткі і сотні прыкладаў, калі правы настаўніцтва парушаюцца, калі абавязкі да настаўніцтва ня выконваюцца. Партыя і ўлада вядуць рашучую барацьбу з гэтымі выкрыўленьнямі лініі. Гэта галоўным чынам, адносіцца да тых адміністратараў, якія па сваявольству перакідваюць настаўнікаў з месца на месца, ня выплачваюць сваячасова пэнсіі, займаюцца дробнымі прыдзіркамі і г. д. З такімі праявамі ўвесь час вядзецца заўзятая барацьба. Але трэба шчыра сказаць, што ў гэтым напрамку ў нас ужо заўважваецца некаторы перагіб, што ганяючыся за зайцам, мы вельмі часта не заўважваем воўка, які часам сядзіць у нашым настаўніцтве. Настаўніцтва выкаванае на хлебах старой буржуазнай культуры ў значнай сваёй частцы ня здолела ўсю сваю сыстэму і зьмест навучаньня перавесьці па новыя савецкія рэйкі. Настаўніцтва, ды асабліва вясковае, звычайна вельмі ўдала спраўляецца з выкананьнем сваіх задач. Але адначасова мы павінны адзначыць, што частка настаўніцтва ды асабліва гарадзкога, не ўспрыняла яшчэ сутнасьці савецкай школы, як школы, якая павінна выхаваць новых савецкіх людзей, новых сацыялістычных будаўнікоў. Гэта асабліва абвастраецца ў нас на Беларусі пры ўмовах русіфікаванасьці нашых гарадоў і вялікай колькасьці гарадзкога настаўніцтва.

Наш клясавы вораг таксама зразумеў значэньне барацьбы за моладзь—за маладое пакаленьне. Адзін з разумнейшых нашых ворагаў прафэсар Мілюкоў, яшчэ ў 1922-23 годзе зьвярнуў увагу сваіх аднадумцаў на гэтую пазіцыю. На якім баку будзе маладое пакаленьне, той, урэшце, застанецца пераможцам.

Ці ведае наша моладзь гэтую гістарычную фігуру—расейскага гарадавога? Узрасло новае пакаленьне людзей, якое ніколі ня бачыла гарадавога. Гэтыя людзі ўзгадаваліся ў рэвалюцыйную эпоху і ўбачылі сьвет без гарадавога. Гэты маленькі факт пазбаўляе нашу моладзь маленькай гістарычнай пэрспэктывы. Гарадавы стаяў ня толькі на рагу вуліц,—ён стаяў пры ўваходзе ў школу, ва ўнівэрсытэт, у музэй, тэатр і праганяў той «чорны народ»—«кухаркіных дзяцей». Гарадавы сядзеў і міністэрстве «Народнай Асьветы», гэта быў—«чалавек у футляры», адзінымі клопатамі якога было «тащить и не пущать». Ня пушчаць краіну да культуры. Наша моладзь нават ня можа ўявіць сабе ўрадавы закон, які забараніў-бы «кухаркіным дзецям» вучыцца разам з дзецьмі дваранства. Яны ня ведаюць пра „процантную норму для яўрэяў“, яны ня ведаюць пра ганебныя казённыя „попечительства о народной трезвости“, якія павінны былі адыгрываць ролю рабочых клюбаў, яны ня ведаюць пра тое, што дзеці ня мелі права вучыцца на роднай сваей матчынай мове.

Гэта шмат чаму вучыць, галоўным чынам, тых, каму даручана справа выхаваньня нашых дзяцей.

ХУ-ы зьезд партыі зьвярнуў нашу ўвагу на тыя адмоўныя моманты, якія заўважваюцца ў колах нашага настаўніцтва: зьмена арыентацыі, нацыяналізм, вялікадзяржаўнасьць, дробна-буржуазныя настроі, падмазваньні да кулацтва, да новай буржуазеі і г. д. Трэба шчыра прызнацца, што наш цэнтральны друк да гэтага часу вельмі мала зьвяртаў увагу гэтым хваробам, паміж тым як яны вымагаюць тэрміновага вывучэньня. Мы, напрыклад, у Гомельшчыне мелі выпадак калі ў школе распаўсюджвалася адозва наступнага зьместу:

> «Господа!
> Страна, занимающая одну шестую часть земного шара, 10 лет изнемогает под игом зверей, именуемых коммунистами. Страна под угрозой уничтожения культуры и идет к гибели.
> Но бог не желая уничтожения ее посеял смуту в ее рядах. Они грызутся как собаки. Троцкисты заглаживая вину перед родиной переходят на нашу сторону. Англия о ее непобедимым флотом готовится в любой момент выйти к нам на помощь.
> С нами Бог и его крестная сила!
> „Полесский Комитет Спасения Родины“.

Хіба падобнага роду факт не гаворыць пра тое, што ў гэтай школе яшчэ ня зьнішчаны ўсе магчымасьці для распаўсюджваньня падобнага роду адозвы. У гэтай школе вучні адкрыта гавораць, што будзе час і мы пойдзем біць камсамольцаў. А паміж іншым гэтая школа носіць імя Карла Маркса! (ці не гаворыць гэта аб тым, што імёны правадыроў можна надаваць установам і прадпрыёмствам толькі за пэўныя заслугі).

Мы ня ведаем, як рэагавала на гэты факт школьнае настаўніцтва, але ці не павінны яны ўзяць на сябе хоць-бы маральную адказнасьць за гэтую адозву. Паміж іншым, адозва распаўсюджвалася ў школе другой ступені, гэта значыць сярод дарослых людзей і мела сваей мэтай зрабіць пэўны ўплыў на вучняў у сэнсе афармленьня ў іх сьветапогляду перад сканчэньнем школы, перад гэтак званым выхадам у «сьвет». Пазнаёміўшыся далей з жыцьцём гэтай школы, мы даведваемся, што супроцьсавецкія настроі наогул вельмі шырока ў ёй расквітнелі. Выразьней ўсяго гэтыя настроі праяўляюцца на лекцыях грамадазнаўства, на такой лекцыі ў 9 клясе распрацоўвалі пытаньне новай эканамічнай палітыкі (НЭП). Вучні не згаджаліся з настаўнікам, калі ён даводзіў, што ў нас у часы прадразьвёрсткі ад сялян бралі толькі лішкі хлебных прадуктаў. На гэта вучні адказвалі:

— У нас ня было прадразьвёрсткі, а быў грабёж, калі сялян рабавалі і гвалтам прымушалі аддаваць хлеб. Вучань гэтай клясы, сын кулака, даводзіць, што ад яго бацькі ў 1919 годзе cілком адабралі захованы хлеб.

Калі ў школе імя Камінтэрну гаварылі аб дыктатуры пралетарыяту, дык пачуліся енкі—у нас гэта «наболевший вопрос». Вельмі цікава, для вучняў 9 клясы пытаньне дыктатуры пралетарыяту зьяўляецца хворым пытаньнем. На гэтай самай лекцыі вучні ўпарта настойвалі на тым, што ў нас няма дыктатуры пралетарыяту, а ў нас дыктатура групы людзей. Настаўнік спрабаваў даказваць адваротнае, але гэта ні да чаго не прывяло. Вучняў пераканаць яму не ўдалося.

Мы гэтыя факты прывялі да таго, каб як мага больш зьняць тую заслону, якая вісіць над школай. Падобнага роду факты заўважваюцца ня толькі на Гомельшчыне, але і ў шэрагу школ іншых акруг. Ажыцьцяўляючы задачу культурнай рэвалюцыі, мы ня маем ніякага права прайсьці міма нашых школ. Прафсаюзы на гэту справу зьвяртаюць вельмі мала ўвагі. Яны яшчэ не ўзялі на сябе працы па нагляду за школамі, па арганізацыі бацькоў, бо толькі адзін камсамол са сваімі сіламі ня справіцца са ўсёй гэтай вялікай і адказнай працай.

Нам здаецца, што ні ў якім выпадку ня можна зьняць адказнасьць за гэтыя факты з настаўніцтва. Гэта было-б няправільна, хоць-бы таму, што цэлы шэраг фактаў зазначае супроцьсавецкія настроі і ў некаторых колах самаго настаўніцтва. Прывядзем наступны прыклад з Гомельшчыны. У школе імя Карла Лібкнехта працуе настаўнік прыродазнаўства Папоў, які калісьці быў пад асаблівым «попечительством начальника Виленского учебного округа». Папоў—садыст, які прымушаў школьных тэхнічак яму аддавацца. Ён мае звычайную манеру выклікаць вучаніц і біць іх па грудзёх, гаворачы:

— Табе ўжо трэба аліманты атрымоўваць, а ня ў школе вучыцца!

Шмат хто ня вытрымаўшы рэжыму Папова пакідалі школу. На лекцыях вучаніцам рабілася млосна...

Папоў выкладаў дарвінізм і хадзіў у царкву, аб чым адкрыта ўсім заяўляў. Ён вёў антысавецкую агітацыю на лекцыях. Але, на вялікі жаль, тыя органы, якія гэтым павінны былі займацца, ня прынялі належных захадаў, каб пазбавіць гэткага «настаўніка» якога-небудзь уплыву над школай. Пры такіх умовах зусім ня дзіва, што ў школе квітнеюць гэткага роду факты. Прывядзем яшчэ адзін прыклад з жыцьця Брагінскай школы другой ступені. Нажаль мы ня маем прозьвішча настаўніцы расейскай літаратуры ў гэтай школе, але нам добра вядома, што яна—былая абшарніца. І вось у запісной кніжцы вучаніцы гэтай школы мы знаходзім наступныя «перлы», загатаваныя з вуснаў гэтай настаўніцы:

> ... „Поэтическим мы называем то произведение словесности, которое является произведением изящного искусства, а прозаическим мы называем то произведение словесности, которое не есть произведение изящного искусства“...

Як відаць, такое «клясычнае» тлумачэньне запазычана з п'есы «Мещанин у шляхецтве»—усё што ня верш—проза, усё што ня проза—верш. Далей мы чытаем:

... Красота есть живая действительность природы, одно из явлений жизни...

«... Создает прекрасныя тела и прекрасныя души»... што нават ...«художник, восхищенный богатством красоты в природе, восклицает в искреннем смирении:

Не я, мой друг, но Божий мир богат.
В пылинке он рождает жизнь и множит... (Фэт),

што нават

„Ни злом, ни враждою кровавой
Доселе затмить не могли.
Ни неба чертог величавый
И прелесть цветущей земли“ (Мережковский).

Ідэалёгічная вартасьць пададзеных вытрымак і радкоў дзеля ўсіх, хто мае хоць кроплю здаровага пралетарскага чуцьця, відавочна.

„... Художник любит красоту, считает ее самым главным основанием жизни, он верит со всей страстностью, что красота спасает мир“...

Настаўніца аказалася вытрыманай да канца і сваю тэорыю аб мастацтве давяла таксама да канца, высунуўшы перад вучнямі задачы мастацтва...

«1) постижение красоты мировых явлений (идей вечной красоты),

2) воплощение идей вечной красоты произведение в искусстве,

3) обогащение жизни человечества красотой».

І ўсё гэта падаецца 12-гадоваму хлапчуку для таго, каб ён пасьля зубрыў і абавязкова здаваў залікі.

Настаўнікі Зембінскай сямігодкі на Барысаўшчыне забаранілі вучням хадзіць у кіно, наведваць вечары і спэктаклі, забаранілі вучням нават быць на камсамольскім вечары, які адбываўся ў камсамольскім клюбе.

Пра мяшчанства і абывацельшчыну ў першай савецкай школе ў Менску, пра цацэркі, флірт, склокі, «барыш-

ні с кавалерамі» ў „Савецкай Беларусі“ ужо шмат пісалася і мы ня лічым патрэбным зноў на гэтым спыняцца. За адмоўныя бакі ў школьным жыцьці заўважваецца ў большай ці меншай меры ва ўсіх школах.

Як знайсьці выхад з гэтага становішча, як зрабіць школу сапраўднай цытадэльлю камуністычнага выхаваньня моладзі? Гэтае пытаньне вельмі адказнае і балючае. Старое дарэвалюцыйнае настаўніцтва паступова перавыхоўваецца практыкай нашага жыцьця і ўсё больш набліжаецца да камуністычных ідэй, да савецкай улады. Пераважная большасьць настаўніцтва пры правільным яго падыходзе будзе шчыра і сумленна працаваць у школе і дасьць патрэбнае выхаваньне нашаму школьніцтву. Тая частка нясумленнага настаўніцтва, якая ня можа, або ня хоча адмовіцца ад старой «славеснасьці», вымушана будзе пакінуць сьцены школы для новага настаўніцтва, якое ідзе з нашых ВУЗ'аў. Прадэс паступовага адсеву несавецкага настаўніцтва ў бліжэйшыя гады павінен паваліічыцца, часам ідучы нават на паслабленьне тэмпу выкладаньня ў школах.

Ясна, што справа ня ў тым, што ўжо распрацаваны новыя праграмы і што выкладаньне ўжо вядзецца па гэтых праграмах. Мы тут у некаторай частцы маем права з ціхім сабатажам гэтых праграм з боку несавецкага настаўніцтва, якое афіцыйна „прыняло“ гэтыя праграмы, фактычна выкладае па старому. Можа мяхі і новыя, але ў іх тое самае старое віно.

У зьвязку з гэтым асабліва вялікая адказнасьць ускладаецца на новых настаўнікаў, значная частка якіх зусім дарма носіць назву «чырвоных настаўнікаў». Якасьць значнай часткі новага настаўніцтва вельмі нізкая. Толькі адзінкі могуць ісьці выкладаць у старэйшыя групы сямігодкі. Такім чынам недахват новых настаўнікаў для старэйшых груп запаўняецца вельмі слаба. Маладое настаўніцтва вельмі мала знаёма з практычным жыцьцём, што таксама накладае пэўны адбітак на працу школы. Вельмі дрэнна таксама тое, што наш ВУЗ мала знаёміць студэнтаў з практыкай выкладаньня, з вучнёўствам, ды наогул школьным жыцьцём. Мы ўжо тут не гаворым пра дзесяткі прыкладаў, калі скончыўшы ўнівэрсытэт нават ня ведае той прадмет, які ён рыхтуецца выкладаць у школе. Хіба мала ў нас студэнтаў скончыўшых беларускае аддзяленьне пэдфаку і ня ведаючых беларускай мовы. Усё гэта значна ўскладняе праблему аб кадрах культурнай рэвалюцыі. Новае ў сыстэме асьветы, якая будзе зацьверджана на чарговай сэсіі ЦВК, павінна палегчыць тое вострае становішча, што стварылася ў гэтым пытаньні.

Вялікае значэньне мае палітычнае выхаваньне настаўніцтва. Тав. А. Вігалок у адным з нумароў часопісі «Культура і Рэвалюцыя» ў артыкуле „больше внимания кадрам культурной революции“ падрабязна спыняецца на гэтым пытаньні.

Гэтыя задачы ў асноўным ідуць па лініі палітычнага выхаваньня настаўніцтва і ўцягненьня яго ў грамадзкую працу. У гэтай справе вялізарную ролю адыгрываюць дамы працаўнікоў асьветы. Патрэбны больш рашучы пераход гэтых дамоў на пачаткі клюбнай грамадзкасьці і ўзмацненьне і палепшаньне ідэалёгічнага кіраўніцтва гэтымі дамамі. Вялікім посьпехам сярод кваліфікаваных груп настаўніцтва будуць мець заняткі па вывучэньні пытаньняў спэцыяльнасьцяй, увязваючы іх з асновамі Ленінізму (напрыклад ленінізм у пэдагогіцы, дыялектычны матэрыялізм у прыродазнаўстве і г. д.). Сетка партыйнай і камсамольскай асьветы павінна абслугоўваць больш шырокія пласты настаўніцтва. Гэта асабліва важна для вясковага настаўніцтва, адарванага ад культурных цэнтраў, якое ня мае магчымасьці часта зьбірацца для супольнай працы. У цэлым шэрагу гарадоў СССР праведзен вельмі цікавы вопыт арганізацыі для настаўніцтва сталых устаноў навучальнага характару па тыпу вячэрніх курсаў і надзвычайных унівэрсытэтаў. Настаўніцтва з вялікай ахвотай ідзе ў гэтыя ўнівэрсытэты і з вялікай энэргіяй у іх працуе. Гэта гаворыць за тое, што гэта вельмі жыцьцёвыя ўстановы, якія трэба ўжываць і ў нас на Беларусі. Настаўнік павінен мець магчымасьць штодзень чытаць палітычную газэту. У гэтым сэнсе вельмі добрую справу робяць тыя мясцкомы, якія ўзялі на сябе працу па распаўсюджваньні „Савецкай Беларусі“.

## Культурная рэвалюцыя і задачы школы.

Тав. Ленін шмат разоў зазначаў, што самая перадавая ў сьвеце рэвалюцыя зроблена ў мала культурнай краіне, дзе тэхніка адстала, дзе няпісьменнасьць і цемра працоўных мас зьяўляецца вялікай перашкодай. Але ніколі тав. Ленін не разглядаў няпісьменнасьць і цемру, як умовы, якія рашуча перашкаджаюць будаўніцтву сацыялізму, бо ён ведаў, што ў працэсе будаўніцтва пралетарыят зможа іх зьнішчыць. Тав. Ленін добра разумеў, што толькі Кастрычнікавая рэвалюцыя, якая адначасова была рэвалюцыяй за права на культурнасьць, сапраўды здолела далучыць працоўныя масы да гэтай культуры.

У сваіх артыкулах і кніжках а таксама прамовах на канфэрэнцыях і зьездах, асабліва камуністычнай моладзі, тав. Ленін зазначаў аб неабходнасьці ўпартай і непарыўнай барацьбы за культуру, за веды, за новую тэхніку, за лепшую кваліфікацыю працы і за лепшую навуковую арганізацыю ўсяго дзяржаўнага, гаспадарчага і культурнага жыцьця краіны.

Асноўнымі пытаньнямі рэвалюцыі зараз зьяўляецца індустрыялізацыя краіны і зьвязаная з ёй рэканструкцыя і рацыяналізацыя вытворчасьці гораду і вёскі.

Усе гэтыя праблемы няўхільна ўпіраюцца ў праблемы культурнай рэвалюцыі. Сацыялістычнае будаўніцтва ня можа пераможна адбывацца бяз удзелу ў ім шырачэнных мас працоўных гораду і вёскі. Калі 2 з палов. гады таму тав. Бухарын казаў, што ніколі культурная рэвалюцыя гэтак ня стукалася ў дзьверы партыі, як „яна стукаецца зараз“ дык пастановы XV партзьезду вымагаюць ад нас шырокага расчыненьня дзьвярэй для культурнай рэвалюцыі. Усе пытаньні рэвалюцыі рашуча зьвязаны з пытаньнямі культуры: рацыянальнае выкарыстоўваньне рабочай сілы, рацыяналізацыя працы, плянавае разьвіцьцё нашай гаспадаркі, палепшаньне працы савету, дзяржапарату, барацьба супроць бюракратызму, барацьба за сацыялістычную вёску, за новага селяніна, за новы быт,—усё гэта вымагае плянавай арганізацыі сацыялістычнай культуры, зьвязанай з разьвіцьцём народнай гаспадаркі, а таксама падрыхтоўкі новых кадраў працаўнікоў, патрэбных для ўсіх шматлікіх галін сацыялістычнага будаўніцтва.

На другі дзень рэвалюцыі пралетарыяту неабходна ўжыць усе сілы, сродкі і магчымасьці, каб стварыць адну з асноўных умоў для пераможнага сацыялістычнага будаўніцтва, гэта значыць падрыхтаваць людзкі матар'ял шляхам працоўнага, камуністычнага выхаваньня дзяцей і моладзі і перавыхаваньня дарослага насельніцтва на новых калектыўных прынцыпах і тым самым згуртаваць працоўных у адну творчую сілу, узброеную ведамі і няўхільнай воляй да стварэньня эканамічнай, палітычнай і культурнай магутнасьці сваёй пралетарскай дзяржавы.

Асноўнай умовай для правільнага разьвіцьця культуры ў імя інтарэсаў пралетарыяту было, папершае, згуртаваньне ўсёй сыстэмы, ідэалёгічных уздзеяньняў і ўзьдзейнічаньняў у руках савецкай дзяржавы і, падругое, стварэньне новых форм і мэтадаў школь-

нага будаўніцтва. Больш 10 год, якія мінулі з Кастрычніка, характарызуюцца барацьбой рабочай клясы, асьветніка і камсамольца за стварэньне гэтых умоў і гэраічных шуканьняў новых шляхоў. Сёньня мы можам казаць, што амаль што ўсе органы асьветы і ўсе культурныя ячэйкі знаходзяцца ў руках пралетарыяту і кіруюцца ў яго інтарэсах камуністычнай партыяй. Аднэй з гэтых культурных баз зьяўляецца наша пачатковая школа. Зусім не выпадкова, што наша партыя ва ўвядзеньні ўсеагульнага навучаньня бачыць адну з неабходных умоў прасоўваньня працоўных па шляху сацыялістычнай рэвалюцыі, бо яна можа і павінна зрабіцца базай і распаўсюджвацелем культуры ў шырокіх масах працоўных.

Настаўнік павінен гэтак арганізаваць жыцьцё і працу школы, каб паставіць яе на новы шлях, каб запоўніць зьмест яе працы грамадзка-палітычнымі момантамі і правільна накіраваць камуністычнае выхаваньне дзяцей і моладзі. Перш за ўсё ня трэба забываць таго, што дзяцей выхоўвае ня столькі школа, колькі самае жыцьцё, сам грамадзкі лад, а таму задачай школы зьяўляецца вывучэньне жыцьцёвых зьяў і ўдзел дзяцей у акаляючым іх жыцьці—гэта значыць сацыялістычным будаўніцтве. Школа павінна дапамагчы дзецям і іх бацьком зразумець жыцьцё, вывучыць так, каб здолець яго перарабіць.

Тав. Ленін шмат разоў гаварыў пра неабходнасьць, каб дзеці, яшчэ займаючыся ў школе, самі прымалі ўдзел у творчай працы, у фізычнай працы, і наогул у грамадзка карыснай працы, якая будзе штурхаць дзяцей на атрыманьне тых ці іншых ведаў, дапаможа ім лепш і мацней уцяміць мажлівасьць да гэтае працы і тым самым дапаможа дзецям набыць грамадзкія навыкі. А гэта ўжо зьяўляецца элемэнтам культуры.

Разам з тым неабходна, каб гэтай працай школа ўнесла ў жыцьцё таго грамадзкага асяродку, сярод якога яна жыве, хоць пязначныя палепшаньні. Асабліва шмат у гэтым напрамку можа зрабіць сельская школа.

Аднэй з асноўных межаў, якая падзяляе людзей паміж сабой, зьяўляецца мяжа паміж горадам і вёскай. Яшчэ досыць доўга будуць існаваць «культурныя ножніцы», бо вёска яшчэ доўга будзе адставаць у сэнсе карыстаньня культурнымі дасягненьнямі гораду. Пры нашым нізкім узроўні гаспадаркі, быту, санітарна-гігіенічных навыкаў і часам палітычнай несьвядомасьці ў адсталых вёсках, малых гарадох і наогул адсталых пластох насельніцтва—школа з самага пачатку павінна заняць ролю ініцыятара ў справе грамадзкай працы.

Апроч таго, у школе «комплексных праграм» пануе лепшая сыстэма, якая дае дзецям мажлівасьць разглядаць усе праявы жыцьця і ў прыродзе, і ў грамадзкім жыцьці ва ўзаемнай залежнасьці, і дэаліктычнай сувязі і тым самым узмацняе ў іх марксысцкі сьветапогляд. Комплексная сыстэма выкладаньня ў руках настаўнікаў павінна цалкам быць увязана з задачамі сацыялістычнага выхаваньня.

Школа павінна навучыць дзяцей жыць і працаваць калектывам і гэту задачу яна зможа выканаць, калі яна няўхільна будзе будаваць сваю працу на шырокай самаарганізацыі дзяцей, як на лепшым фактары разьвіцьця калектывізму і калектыўных навыкаў. Гэта асабліва патрэбна сялянскім дзецям, бо ў вёсцы жыцьцё значна менш аграмаджана, там наогул менш умоў для абагуленьня працы і быту, а паміж тым задачай партыі на вёсцы зьяўляецца весьці вёску па шляху калектывізму. Школа павінна закласьці асновы марксысцкага сьветапогляду, яна павінна даць тэхнічныя навыкі, павінна даць калектыўныя навыкі, у працэсе сваёй працы яна павінна культурна ўзьдзейнічаць на вёску і працоўныя масы. Школа павінна гэтак арганізаваць дзіцячы асяродак, каб ён зрабіўся фактарам тэхнічнай і ідэалёгічнай перааправоўцы вёскі.

Калі народны настаўнік добра зразумее задачы пралетарыяту і задачы школы, а таксама тую гістарычную задачу, якая ўскладзена новым этапам рэвалюцыі па савецкую інтэлігенцыю, дык шляхі разьвіцьця сацыялістычнай культуры забясьпечаны.

**Н. Ш.**



# З працы пэдсаветаў.

Заварушыўся, схамянуўся вясковы настаўнік. Пэдсавет прымусіў яго азірнуцца навакол сябе і ўбачыць «хто ён і што ён» і... амаль ня кожны з іх пракапаўся, што ён трошкі (пад іншы выпадак і многа) акасьцянеў. Закіс, аброс машком і нават грыбкамі. Мэтадычна адстаў на цэлых 14 год.

Дзе тут можна было думаць аб вытворчасьці?

Усяму ёсьць прычыны. Так і тут. Калі зірнуць на пройдзены настаўнікам шлях, кожнаму стане ясна.

Вайна адна, вайна другая, голад... Мэтодыка ў загоне. Нарэшце, „даёш вытворчасьць». Адсюль—мэтбюро, за працу!

Аб мэтбюро загамапілі год пяць таму назад і, нават, мо' болей, а вясковы настаўнічак толькі сёлета прадстаў перад тварам мэтбюро «яко благ, яко наг, яко нет нічаво», акрама моху на балотны, сярод якога ён апынуўся, і ўгроз па самыя вушы, і пе прасіў ратунку. У гэтым годзе, на вялікае шчасьце пачуўся з мэтбюро голас. Зьявіліся старшыні і пачалі арганізоўваць працу.

Некаторыя старшыні так мудра жадалі пабудаваць працу, што арганізоўваліся па працягу 2-х 3-х месяцаў. Увайшлі ў смак працы пад канец навучальнага году. Усё-ж такі арганізаваліся. Хвацілі за чупрынку настаўнікаў і крыкнулі ім: «Раўняйся!» Давай практычныя лекцыі, а мы будзем слухаць цябе, варт ты што-небудзь, ці не? Не, дык мы цябе ў архіўчык.

Рэч, вядома, выходзіла ў практыканта і ня надта згабна на лекцыях. Дзе-ж бо! Праграма—волат ды з комплексамі, ды яшчэ ў 4-х групах. Гэта-ж ня жартачкі! І носіцца бедны хлапчук, альбо дзяўчына-настаўніца ад групы да групы, часта думаючы і ломячы галаву над праблемкай: „Аднаму быць у чатырох асобах". У часе працы там кране, тут зачэпіць, гэта спрабуе ўпічыкнуць і нясецца, прабачайце, задраўшы хвост з сваімі вучнямі да станцыі: «Калёквіумы», дзе прыдзецца сустрэнуцца з 2-х 3-х і 4-х камплектнікамі і дзе з боку прадстаўнікоў ад раймэтбюро зноў пачуецца гучнае «Раўняйся».

Гэтак працуючы мімаволі будзеш абліўацца потам у клясным памяшканьні і кватэры настаўніка з тэмпэратурай у 5°. Сама сабой набягае ўкраінская прыказка. «Напнысь, напнысь, шчо-б аж пуп выскачыў». Пры такіх умовах працы ў аднакамплектаўцы-настаўніка адмоўных бакоў хапае.

Вось дзе можна разгуляцца і разгарнуцца з крытыкай. Пачалася крытыка. Крытыкавалі, хто як мог. Хто пасэмінарску, хто пакурсантску, хто проста так, а хто і ніяк. Адным словам, пачаліся невялічкія схваткі сярод настаўніцтва. У некаторых пэдсаветах, як, напрыклад, Станькаўскі і Паўсьеўскі ўмудрыліся падзяліцца на лягеры.

Замярзаючая маса забулькацела. Павеяла прадвесьнем. Запахла нечым новым у жыцьці настаўнікаў. Але...

Вось гэтае «але», каб яго лепш надалей ня ўжываць у нашай мэтадычнай падрыхтоўцы. Кінуліся шукаць мэтадычнай літаратуры ў межах свайго пэдсавету. Няма. (У прыватнасьці я кажу пра Паўсьеўскі пэдсавет).

— Ты мо' хоць настаўніцкую газэту маеш?

неабходна ў кожным раёне адчыніць 40-50 груп з ахопам кожнай групай у сярэднім 25-30 чал. Гэтыя лічбы сьведчаць аб тым, што працу на гэтым вучастку неабходна пашырыць у 2-3 разы ў параўнаньні з тым тэмпам, які мы мелі да гэтага часу. Інакш мы будзем сьвядомымі ўдзельнікамі пахаваньня партыйнай дырэктывы аб тэмпу зьнішчэньня няпісьменнасьці і малапісьменнасьці.

**З арганізацыйных задач** перад намі зараз стаяць наступныя: неабходна скласьці пэрспэкцыйны плян па зьнішчэньню няпісьменнасьці і малапісьменнасьці па кожнаму раёну ў акрузе БССР (зараз складаецца), з вучотам эканамічных, палітычных і культурных асаблівасьцяй як раёну, так і акруг паасобку; плян патрэбна ўзгодніць з плянавымі меркаваньнямі т-ва «ПН», ЦСПСБ, пачынаючы з раёну і канчаючы НКА.

У кожным раёне нам неабходна мець, апрача пэрспэкцыйнага пляну, тэрыторыяльны плян з указаньнем, у якіх вёсках і калі павінен быць лікпункт, у якой вёсцы і калі павінна быць школа малапісьменных, або група па зьнішчэньню няпісьменнасьці, або індывідуальнага навучаньня.

Пляны неабходна разгледзець у с-саветах, на агульных сходах сялянства з тым, каб само насельніцтва магло іх праверыць, унесьці неабходныя карэктывы—зьмены ці дадаткі і шырока з імі азнаёміцца. У кожным с-савеце, хаце-чытальні павінен быць сьпіс няпісьменных, якія павінны наведваць лікпункты.

Саюзам патрэбна ўлічыць дакладна колькі маецца рабочых няпісьменных і малапісьменных, а таксама іх утрыманцаў, намеціць месцы арганізацыі лікпунктаў, гурткоў і груп індывідуальнага навучаньня загадзя да пачатку навучальнага году.

Школьнае будаўніцтва павінна праходзіць у першую чаргу ў тых вёсках, дзе намячаецца лікпункт або школа малапісьменных. Гэта пазбавіць нас ад лішніх трат на найм будынкаў пад лікпункты, на абсталяваньне іх.

Правядзеньне ў жыцьцё гэтых задач дапаможа арганізацыйна ўпарадкаваць работу і мець пэрспэктыву.

**Упарадкаваньне гаспадарчай часткі**—нармальнае фінансаваньне, нармальнае забясьпечаньне падручнікамі, падсобнікамі, абсталяваньнем—зьяўляюцца залогам пасьпяховасьці ў працы. У гэтым напрамку нам патрэбна мець каранны пералом асабліва ў нізавых органах у сэнсе прызнаньня, «што далейшае ажыцьцяўленьне індустрыялізацыі і пад'ёму гаспадаркі ў далейшым ня могуць адбывацца без належнага культурнага пад'ёму краіны.

У першую чаргу нам неабходна забясьпечыць сродкамі плян зьнішчэньня няпісьменнасьці, малапісьменнасьці за кошт агульных і дадатковых асыгнаваньняў на культурныя мерапрыёмствы, інакш наш плян застанецца прыгожым узорам бюракратычнага парадку. Раўналежна з гэтым неабходна поўнасьцю разгортваць сетку, прадугледжаную па пляну, прыцягваць да судовай і адміністрацыйнай адказнасьці распарадчыкаў крэдытаў за няправільнае ці няпоўнае іх скарыстаньне.

Бязумоўна, неабходна забясьпечваць лікпункты і школы малапісьменных нараўне з іншымі культ-асьветнымі ўстановамі дрывамі, газай, абсталяваньнем (у каёмных памяшканьнях),—наладзіць вучот інвэнтару. Кніжка павінна быць лепшай якасьці.

Для замацаваньня і разьвіцьця пісьменнасьці патрэбна выдаваць бібліятэчкі для малапісьменных, па пераважнасьці масавай літаратуры сельскагасп. і рэвалюцыйна-бытавога і палітычнага зьместу—буйным шрыфтам.

Выдаваць рэгулярна пры «Беларускай Вёсцы» старонку для малапісьменных буйным шрыфтам, складаючы яе ў большасьці з карэспандэнцыяў, артыкулаў, якія асьвятляюць посьпехі вёскі на культурным і гаспадарчым фронце.

Рассылаць падручнікі на месцы не пазьней другой паловы жніўня месяца. РВК і гарсаветам завесьці сталы сумарны вучот атрымоўваемай літаратуры, яе разьмеркаваньня па ўстановах і запіс кніжак па інвэнтарнаму сьпісу ва ўстановах.

Аплату працы на лікпунктах праводзіць аднастайна па БССР—сталыя лікпункты і школы малапісьменных павінны аплачвацца як установы, працуючыя цэлы год; групы індывідуальныя аплачваць, як сэзонную працу. Настаўніцтву, якое працуе ў школах, патрэбна ўзяць на сябе пачэсную ролю арганізацыі лікпунктаў у самых шырокіх разьмерах.

Нам патрэбна лікпункт стварыць актыўным і працаздольным, каб у ім была зацікаўлена вёска, навакол лікпункту скласьці грамадзкасьць—канкрэтныя задачы ў гэтым напрамку вызначаюцца наступныя.

З пачатку наступнага навучальнага году разьмежаваць лікпункты пераросткаў (з 12-16 год) ад дарослых, нельга выкладаць адно і тое-ж розным узростам.

Усім культ-асьветным установам і ў першую чаргу лікпунктам і школам малапісьменных разьвіваць сельскагаспадарчыя веды, веды эканамічнае выгоды каапэраваньня і калектывізацыі сельскай гаспадаркі.

Зьвязаць працу лікпунктаў у час праходжаньня праграмы з працай іншых культ-асьветных установаў, хат-чытальняў, чырвоных куткоў, каапэратываў, савгасаў, скарыстоўваць у працягу працы лікпунктаў мясцовы матар'ял аб працы гэтых установаў, распаўсюджваць выпіску газэт сярод слухачоў, практыкаваць кнігаўношаства і г. д.

У працягу працы лікпунктаў і школ малапісьменных практыкаваць сувязь з бібліятэкамі, арганізацыю ячэек «ПН», экскурсіі, уцягненьне скончыўшых лікпункты ў гурткі пры хатах-чытальнях і бібліятэках. Пытаньне камплектаваньня, наведваньня, дысцыпліны, вынікаў вучобы абгаварваць на сельскіх сходах, сельскіх саветах, ячэйках „ПН“ і ячэйках камсамолу.

Устанавіць тэрмін працы лікпункту—$5^{1}/_{2}$-6 месяцаў. У вёсцы заняткі пачынаць рэгулярна з 15 кастрычніка і канчаць іх паміж 15 красавіка і 1 мая.

Падрыхтоўчую працу па разгортваньні лікпунктаў праводзіць да пачатку заняткаў—назначэньне працаўнікоў, наём памяшканьняў, укамплектаваньне вучнямі, забясьпечаньне падручнікамі і г. д.

Праца апорных лікпунктаў павінна праходзіць у наступным парадку: вуснае інструктаваньне кіраўнікоў груп няпісьменных і індывідуалаў, практыкаваць пэрыядычныя нарады з ліквідатарамі па пэдагагічным і арганізацыйным пытаньням, наведваньне заняткаў ліквідатараў у мэтах азнаямленьня з іх пастаноўкай. Патрэбна таксама разьвіваць каля лікпункту гурткі па чытаньню газэт, самаадукацыі; грамадзкім арганізацыям патрэбна высоўваць скончыўшых лікпункты, асабліва школы малапісьменных—на грамадзкую працу.

У гэтай працы многае залежыць ад настаўніка, а потым ад кіраўніка апарату і ў першую чаргу ад нізавога. Праца патрабуе абмену вопытам, калектыўнай прапрацоўкі, а ў зьвязку з гэтым на мясцох неабходна плянава арганізоўваць канфэрэнцыі па падвышэньню кваліфікацыі ліквідатараў і настаўнікаў школ малапісьменных, рэгулярна ставіць пытаньні аб працы з дарослымі на настаўніцкіх раённых канфэрэнцыях, таксама на пленумах школьных саветаў (пашыраных), райметбюро. У праграму летніх настаўніцкіх курсаў, у праграму пэдтэхнікумаў уключыць мэтодыку працы з дарослымі.

Высьвятліць у часопісі «Асьвета» мэтадычныя пытаньні аб працы з дарослымі, маючы апору ў гэтай працы на масавыя ўстановы.

Практыкаваць акруговыя і цэнтральныя курсы па падвышэньню кваліфікацыі ліквідатараў апорных лікпунктаў і ліквідатараў ненастаўнікаў.

У апошнія месяцы праца ў акругах пачала некалькі ажываць, але карэннага зруху яшчэ няма. Ён можа выліцца толькі ў канкрэтнай працы, якую змогуць разьвіць нізавыя арганізацыі. Цэнтральны Савет у гэтым напрамку даў ужо сталыя дырэктывы, застаецца справу разгарнуць толькі акруговым і раённым саветам і нізавым ячэйкам т-ва „ПН". Разгортваньне працы павінна пайсьці па наступным шляху:

Ва ўсіх акругах неабходна да восені правесьці раённыя і акруговыя канфэрэнцыі там, дзе яны яшчэ не праведзены, абрацъ сталыя кіруючыя органы т-ва. З боку цэнтр. савету ўстанавіць, як правіла, жывое кіраваньне акруговымі і раённымі органамі, а з боку апошніх—кіраваньне нізавымі ячэйкамі.

Непараўнальна шырэй разьвіць працу па арганізацыі ячэяк т-ва ў гарадох, асабліва ў ЖАКТ'ах і пры мясцкомах. Пытаньні арганізацыі ячэяк ставіць на агульных сходах членаў саюзаў, пайшчыкаў кааперацыі, на пленумах МК і фабкомах. Не аслабляць тэмпу працы па разьвіцьцю ячэяк т-ва ў вёсцы.

Больш разьвіць эксплёатацыйную дзейнасьць т-ва, праводзіць працу ў гэтым напрамку ня тольлі ў гарадох, але і ў раённых цэнтрах. Бязумоўна, што мерапрыёмствы ў гэтым напрамку—разьвіваць у першую чаргу масава-культурнага парадку: лекцыі, дыспуты, кіно, прыцягваючы да ўдзелу ў іх культасьветных працаўнікоў, культасьветныя ўстановы, а таксама кааперацыю.

У штодзённай сваёй працы нізавым ячэйкам мець сталую сувязь з грамадзкімі і савецкімі арганізацыямі і ўстановамі.

Раз у год, прыблізна, в пачатку верасьня праводзіць спэцыяльную кампанію „Месячнік" па ажыўленьні і праверцы працы ячэяк.

Бязумоўна, што толькі пры дружным націску ўсяго працоўнага насельніцтва і ў першую чаргу нашага актыву — партыйнага, камсамольскага, прафэсыйнага і савецкага мы зможам з посьпехам прасоўвацца на гэтым вельмі цяжкім фронце барацьбы за культуру і пісьменнасьць. Г. Брыгневіч.



# „Гэта было і ў старых школах".

У 132 нумары нашае газэты, у артыкуле «Вы мне нравитесь» пісалася аб «дзейнасьці» настаўніцы Талочынскай сямігодкі Л.

У адказ на гэты допіс загадчык сямігодкі прыслаў абвяржэньне, дзе не пратэстуе супроць крытыкі настаўніцы Л., але адначасова піша «супроцьжа таго, што ў часе перапынку сьпяваюцца частушкі, школьная рада рашуча пратэстуе, бо ў сьценах школы яны ня ўжываліся і, спадзяюся, ня будуць ужывацца»...

Спрачацца з загадчыкам школы т. Шчарбовічам аб тым, што надалей частушкі ўжывацца ня будуць, мы ня зьбіраемся. Але пагаварыць пра тое, як вучні Талочынскае сямігодкі трымалі сябе ў працягу мінулага навучальнага году, памойму, трэба і магчыма—з гэтага будзе карысьць.

Гэта робіцца не для таго, каб абразіць настаўнікаў ці вучняў. Зусім не. Гэта робіцца дзеля таго, каб зьвярнуць увагу органаў асьветы і шырокай грамадзкасьці на тыя хворыя зьвішчы, якія маюць месца ў нашых школах.

Пра некалькі школ ужо ў нас пісалася раней (1 менская, гомельская і інш.)

Талочынская сямігодка, нажаль, не адстае, а нават ідзе наперад.

Каб ня быць галаслоўным, прывяду некалькі фактаў з жыцьця гэтай школы за мінулы год.

## Паводзіны вучняў.

З тых матар'ялаў, якія ў нас маюцца, відаць, што атмасфэра сярод вучняў нездаровая.

— Напрыклад, вучні на лекцыях мастацтва, замяж таго, каб займацца сваёй непасрэднай справай, пачынаюць хуліганіць: зьбіваюць рэчы, якія павінны зарысоўваць, кідаюць у настаўніка папераю, розным сьмецьцем, наладжваюць зьвярыныя канцэрты—выюць ваўкамі, казламі, асламі і г. д. А калі настаўнік, выведзены з цярплівасьці, запытаў—хто тут аслом завыў, вучні напісалі ў насьценгазэце, што настаўнік іх аслямі называе.

Не спадабаўся вучням выкладчык фізвыху тав. Юраўскі і вучні 6 клясы «а» падалі заяву ў пэдсавет аб тым, што настаўнік іх б'е, нават знайшліся ахвотнікі пасьведчыць, што запраўды гэта бывае.

Флірт на лекцыях—звычайнае зьявішча.

Часта прыходзіцца чуць гутаркі сярод вучняў.

Чым менш жанчыну любіш, ты больш ёй падабаешся.

Ніна, досыць табе сядзець з Пярчонкам, ідзі пасядзі са мной і г. д.

Калі вучні варочаюцца са школы, дык забаўляюцца іначай—пхаюць праходзячых жанчын у канавы.

## Як-жа рэагуе на ўсё гэта пэдсавет?

Калі выкладчык мастацтва паставіў на пэдрадзе пытаньне аб хуліганстве вучняў у час заняткаў, то загадчык толькі зрабіў заўвагу настаўніку (у прысутнасьці прадстаўнікоў вучнёўскіх арганізацый), а адносна паводзін вучняў зусім не гаварылася. У пратакол пытаньне не запісана.

Другі раз пры абгаварэньні паводзін вучняў, настаўніца Шчарбовіч (жонка загадчыка) заявіла.

— Гэта было і ў старых школах, вось калі я вучылася, дык вучаніцы прынесілі сала і клалі пад крэсла настаўніка.

## Узаемаадносіны паміж настаўніцтвам.

Назіраецца сярод настаўніцтва, асабліва першага канцэнтру, нездаволеньне загадчыкам школы, хаця фактычна ўсёй школе дае тон яго жонка, якую, да рэчы сказаць, вельмі нэрвуюць размовы ў настаўніцкай у час перапынку на пэдагагічныя тэмы—яна ў такіх выпадках звычайна заяўляе: «мне гэта ўсё абрыдла, хто хоча гаварыць аб працы, няхай ідзе з настаўніцкай, мне трэба адпачыць».

Часамі любіць пусьціць пыл у вочы тым, што інспэктар—яе «інтымны» прыяцель.

## Сацыяльны склад вучняў.

Абслугоўвае школа, галоўным чынам, дзяцей заможных бацькоў, бедняты нязначны процант.

Ходзяць упартыя чуткі, што, пры прыёме вучняў у сямігодку, прымалі дзяцей заможных бацькоў з меншымі ведамі, а дзяцей бедняты з лепшымі ведамі ня прымалі, бо непакоіліся, што яны плаціць за навучаньне ня змогуць.

З усяго памянёнага відаць, што адмоўныя зьявішчы ў школе былі. Зьнішчыць іх у наступным навучальным годзе неабходна.

Аб гэтым трэба падумаць належным органам:

К—к.

# ПРАВІЛЫ ПРЫЁМУ

## ў пэдагагічныя тэхнікумы, 2-хгадовыя пэдкурсы, Магілеўскі Мэдпалітэхнікум з 3-мя аддзяленьнямі: акушэрскім, фармацэўтычным і фізкультурным і Каапэрацыйны Тэхнікум у Віцебску.

Прыём у пералічаныя ўстановы праводзіцца прыймовымі камісіямі, якія арганізуюцца пры кожным тэхнікуме і 2-хгадовых пэдкурсах. На імя гэтых камісій трэба падаваць заявы ўсім, хто хоча паступіць у тую ці іншую навучальную ўстанову, указаўшы ў адрасе назву таго гораду, дзе знаходзіцца тэхнікум. Ніякіх камандыровак у пэдтэхнікумы, на 2-хгадовыя пэдкурсы, акушэрскае і фармацэўтычнае аддзяленьні магілеўскага мэдпалітэхнікуму браць ні ад каго не патрэбна, а проста падаецца заява з адпаведнымі дакумантамі.

Фізкультурнае аддзяленьне камплектуецца вучнямі, якія камандыруюцца адпаведнымі цэнтральнымі і акруговымі ўстановамі па разьмеркаваньню Вышэйшага Савету Фізычнае Культуры.

Каапэрацыйны тэхнікум камплектуецца вучнямі, камандыраванымі каапэрацыйнымі ўстановамі па разьмеркаваньню Народнага Камісарыяту Асьветы паміж каапэрацыйнымі цэнтрамі (Белкапсаюз—20 асоб, Белсельсаюз—20 асоб, кустпрамсаюз—5 асоб і 5 месц для дэмабілізаваных чырвонаармейцаў). Тым установам, якія маюць поўны лік месц, павінны дасылаць на 1 месца 2-х кандыдатаў, каб мець магчымасьць зрабіць належны адбор. Пры падборы кандыдатур для пасылкі на вучобу трэба мець на ўвазе практычны стаж працы, сацыяльнае становішча, аддаючы перавагу батракам, дзецям і самім рабочым, выхаванцам дзіцячых дамоў і дзецям бяднейшага сялянства.

### Якога ўзросту прымаюцца ў тэхнікумы і пэдкурсы.

Узрост паступаючага ў тэхнікумы павінен быць ня ніжэй поўных 14-ці і ня вышэй 25-ці год, а на 2-хгадовыя пэдкурсы ня ніжэй 17 і ня вышэй 30 год. Выключэньні з гэтага правіла могуць быць, але ў выключных выпадках па асабовому хадатайству і дазволу з боку НКА.

Адхіленьні ад правіла будуць давацца фізкультурнаму аддзяленьню і каапэрацыйнаму тэхнікуму па хадатайству прыймовай камісіі, бо апошнія камплектуюцца па камандыроўках, улічваючы непасрэдную працу па спэцыяльнасьці.

### Якія дакуманты патрэбна прыкладаць да заявы.

Да заявы павінны быць далучаны такія дакуманты (абавязкова ў арыгіналах):

1) аб узросьце (мэтрыка);

2) аб адносінах да вайсковай павіннасьці (для мужчын прызыўнога ўзросту);

3) аб адукацыі (пасьведчаньне аб скончаньні навучальнае ўстановы, а для скончыўшых у 1926-27 і 1927-28 г. г., апрача гэтага, адозва-характарыстыка пэдрады аб акадэмічнай пасьпяховасьці і здольнасьці да навучаньня ў тэхнікуме, або пэдкурсах);

4) мэдычнае пасьведчаньне аб тым, што стан здароўя паступаючага дазваляе працаваць па абранай ім спэцыяльнасьці;

5) анкета, завераная партыйнымі і прафэсыянальнымі альбо савецкімі ўстановамі і арганізацыямі **ня ніжэй районнага маштабу**, прычым адказнасьць, паводле крымінальнага кодэксу, за няправільнасьць дадзеных вестак нясуць асобы, якія засьведчылі анкету.

Ніякія копіі дакумантаў ня прымаюцца (за выключэньнем дакумантаў аб адносінах да вайсковае павіннасьці для мужчынскага полу). У выпадку страты дакумантаў павінен быць пададзены дублікат яго. Да заявы неабходна прыкладаць паштовыя маркі на 18 кап. для адказу падаўцу заявы.

### Як і з якой адукацыяй будуць прымацца ў гэтым годзе ў пэдтэхнікумы і на пэдкурсы?

У пэдагагічныя тэхнікумы, на пэдкурсы, а таксама на акушэрскае фармацэўтычнае аддзяленьне Мэдпалітэхнікуму будуць прымацца асобы, якія скончылі ў 1926-27 і 1927-28 навуч. годзе поўны курс 9-годкі, школы 2-й ступені, 2-хгадовыя агульна-адукацыйныя курсы, 7-гадовыя працоўныя школы, школы для дарослых узвышанага тыпу, школы сялянск. моладзі, скончыўшыя вышэйпералічаныя ўстановы будуць прымацца **бяз іспытаў**.

Асобы, якія скончылі вышэйпамянёныя ўстановы ў 1925-26 навуч. годзе і раней, павінны трымаць іспыты па грамадазнаўству, матэматыцы, прыродазнаўству, фізыцы, беларускай і расейскай мовах і літаратуры.

У каапэрацыйны тэхнікум ад тых, якія будуць камандыраваны, будзе патрабавацца, каб яны мелі веды за 5-ую групу 7-годкі; тое-ж самае будзе праведзена і да фізкультурнага аддзяленьня Мэдпалітэхнікуму, прымаючы пад увагу, што сюды будуць камандыравацца тыя асобы, якія ў сучасны момант ужо працуюць і будуць пасланы на дакваліфікацыю.

### Тэрмін падачы заяў і часы прыёму.

1. Заявы аб паступленьні ў тэхнікумы і пэдкурсы прымаюцца з 1 ліпеня па 1 жніўня. Тэрмін іспытаў і залічэньняў устаноўлен з 5 па 15 жніўня. З 15 жніўня па 25-е паведамляюцца аб выніках прыёму ўсе асобы, якія падалі заявы аб прыёме ў даную навучальную ўстанову.

Пачатак заняткаў ва ўсіх установах з 1 верасьня. Выключэньнем з гэтага будуць слуцкі пэдтэхнікум і фізкультурнае аддзяленьне Мэдпалітэхнікуму, якія прымушаны заняткі распачаць ня з 1 верасьня, а з 1 кастрычніка, з пачатку новага бюджэтнага году, як установы, якія адчыняюцца толькі з наступнага 1928-29 навучальнага году.

### Мэдычны агляд.

Усе асобы, як тыя, хто трымаў іспыты, так і залічаныя бяз іспытаў, абавязкова праходзяць мэдычны агляд. У выпадку ўстанаўленьня фізычнай няпрыгоднасьці паступаючага да абранай спэцыяльнасьці, прыймовая камісія па залічэньню ў тэхнікум ці пэдкурсы адмаўляе, прычым залічаныя бяз іспытаў пастановай прыймовай камісіі выключаюцца з сьпісаў залічаных і вольныя месцы запаўняюцца кандыдатамі.

Разам з гэтым трэба адзначыць, што мэдпэрсанал, які робіць мэдычны агляд паступаючых у навучальныя ўстановы, вельмі павярхоўна адносіўся да гэтага адбору ў пэд. установы, дзякуючы чаму было прынята шмат вучняў, якія мелі 2-ю стадыю сухотаў і ў сярэдзіне году кідалі вучобу і месцы заставаліся пустымі. Шмат прынята такіх, якія маюць зусім дрэнную мову (шапялявяць), чаго нельга дапусьціць у пэдустановах.

1-я друкарня „БДВ". У ліку 7.250. Галоўлітбел. № 302.